# Тыднёвік Магілёўскі




№ 20 (61) 20 траўня 1999 г. Кошт свабодны


ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ: ШМАТКРОП'Е

## Час раскідваць камяні. І час іх зьбіраць...



*Мінулым разам мы абяцалі чытачам поўную выніковую карціну травеньскай выбарчай кампаніі. Зараз разумеем, што зрабіць гэта апэратыўна, аналітычна і досыць дакладна магчымым не ўяўляецца. Можна прывесьці лічбы, на якіх настойваюць абласныя камісіі і ЦВК, альбо назваць колькасьць ахвяраў кампаніі (у нас гэта адпаведна: 50,7% і блізу 80 чалавек). Можна ацаніць ступень удзелу альбо няўдзелу ў справе з боку розных дэмакратычных грамадзкіх арганізацыяў. Можна нарэшце зьвярнуць увагу на тое, хто за межамі краіны ставіўся да выбараў уважліва і спачувальна, а хто не зьвярнуў на іх аніякай увагі...*

*Усё для грамадзкага розуму будзе вартасным і патрэбным, асабліва што тычыцца ахвяраў рэпрэсіяў і ціску. (Справядліва было б назваць усіх паймена, хто прадэманстраваў мужнасьць і супраціў неспрыяльным абставінам). Але за пасьпешлівай публіцыстыкай рызыкоўна не заўважыць таго важкага, што бачыцца толькі на адлегласьці часу і прасторы. Пачакаем крыху, узважым і прааналізуем, паслухаем разумных людзей, азірнемся на ўласныя паводзіны...*

*Зараз ясна толькі адное: унікальная падзея, **у якую ніхто ня верыў**, сапраўды адбылася. Вось гэта ёсьць найпершым вынікам. Зь ім варта беларускую грамадзкасьць павіншаваць. Нават, няхай сабе сапраўды "усяго" некалькі соцень грамадзянаў, на якіх заморскі сьвет, свае апазыцыянэры, прэзыдэнт і старшыні выканкамаў, урад і праваахоўныя органы даўно «махнулі рукой», адчулі сябе травеньскімі днямі не на каленах – цяжка пераацаніць і гэтыя відавочны вынік.*

*Для чыстых, у сэнсе прафэсіі і занятку, палітыкаў кампанія дала і яшчэ падкіне не адну тэму для спрэчак, дыскусій, сваркі і ўзаемаабвінавачваньняў. І добра. Надышоў час зьбіраньня каменяў. Гэтая цяжкая, засяроджаная праца вельмі карысная для чысьціні жыцьцёвага поля, на якім расьце, зразумела, як збажына, так і пустазельле...*

*Ня толькі Фронт апынуўся перад неабходнасьцю пераменаў і рэформаў – ніхто ня можа пасьля травеньскай кампаніі пачуваць сябе як да яе – ўтульна і абыякава. Кампанія скончылася, а Беларусь працягваецца: спрэчка вакол выбараў (чытай 2-ю старонку) далёка не «арганізацыйная», а канцэптуальная.*

*Ня будзем ленавацца – каменяў хопіць на наш век. Такая ў нас прырода, такія ўмовы. Хто-ж і зьбярэ нашыя камяні, калі ня самі?.. Вось і яшчэ адзін вынік: няма перапынку ў працы дзеля волі і прыстойнага жыцьця.*

**Рэдакцыя «ТМ»**

НАПЯРЭДАДНІ ПЕРАРЭГІСТРАЦЫІ ПАЛІТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

## Пачалі з правакацыі. Традыцыйна

Апошнімі днямі ў Магілёве пачалася правакацыйная кампанія па дыскрэдытацыі ў вачох жыхароў гораду арганізацыі БНФ. Падставаю для гэтага зьявілася ўлётка экстрэмісцкага зьместу, заклікаючая да «згвалтаваньня дзяцей», а таксама да «барацьбы зь міліцыяй». Яна падпісаная сьвятым для патрыётаў заклікам «Жыве Беларусь».

У Заяве Рады Цэнтральнага раёну Народнага Фронту Магілёва, якой валодае «ТМ», сказана, што БНФ ня мае ніякага дачыненьня да вышэй згаданай ўлёткі. «Наша арганізацыя зьяўляецца афіцыйна зарэгістраванай і дзейнічае ў межах законаў і Канстытуцыі РБ. Мы рашуча адвяргаем гвалт як сродак палітычнай барацьбы. Зьмест азначанай улёткі адназначна характарызуе яе аўтара (ці аўтараў) як псыхічна хворага ці правакатара», – гаворыцца ў Заяве.

Таксама франтаўцы лічаць, што маюцца ўсе падставы каб ацаніць зьяўленьне гэтае ўлёткі як правакацыю спецслужбаў рэжыму супроць БНФ. Яны заклікаюць супрацоўнікаў МУС не паддавацца на правакацыі і ня ўдзельнічаць у палітычных сцэнарах, распрацаваных антыбеларускімі сіламі. Са свайго боку магілёўская арганізацыя БНФ абяцае прыкласьці ўсе намаганьні, каб высьветліць усе акалічнасьці гэтае цёмнае справы.

*Уласная інфармацыя*

## ЗВАРОТ МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕНЬНЯ ПРАВААБАРОНЧАГА ЦЭНТРУ «ВЯСНА-96»

Нашая арганізацыя вядзе маніторынг парушэньняў Канстытуцыі і законаў падчас выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, прызначаных на 16 траўня.

З мэтай дапамогі пацярпелым і абароны іхных правоў просім усіх, чые правы былі парушаныя, каго за ўдзел у выбарчай кампаніі прыцягвалі да адказнасьці ці выклікалі ў міліцыю, пракуратуру, суд, КГБ, паведамляць пра гэта ў нашую арганізацыю.


***Наш адрас:*** Магілёў, вул. Ленінская 27, кв. 50

***Тэлефоны:*** 32 - 33 - 43, 25 - 64 - 73

***Адрас для лістоў:*** 212001, Магілёў, вул. Бялінскага, 22 - 13


***Старшыня МА ПЦ «Вясна-96»***
***Аляксей Колчын***

# Травень-99.
# Кроніка напружаньня-2

Як вядома, 13 траўня **Зянон Пазьняк** зьняў сваю кандыдатуру з прэзыдэнцкіх выбараў. Вось што на наступны дзень ён патлумачыў у інтэрвію Беларускай Рэдакцыі радыё Свабода:

– Я абсалютна перакананы, што зрабіў вельмі правільны крок. Іншая справа, што некаторыя аспэкты гэтага кроку будуць зразуметыя пазьней, як, на жаль, часта бывае. Я ведаю арганізацыі – палітычныя й эканамічныя, якія ў Маскве даюць грошы на выбары. Ведаю ланцужок, які за гэтым стаіць і канкрэтных людзей у канцы ланцужка. Спадары Чыгір і Ганчар выконваюць адпаведны заказ Масквы, які заключаецца ў тым, каб стварыць прамаскоўскую, маргінальную, як я кажу, апазыцыю Лукашэнку ў Беларусі. Сваю апазыцыю – тую, якая б магла быць пад уплывам Масквы. А Фронт адтуль некіруемы, Фронт – антырасейскі.

***Радыё Свабода:* – Вы пра гэта ўжо пісалі й тым ня менш узялі ўдзел у гэтае кампаніі. То бок мы ня можам лічыць, што гэта зьявілася галоўнай прычынай дзя зьняцьця вамі свайго кандыдатуры.**

– Безумоўна. Гэта была ўвогуле не прычына. Я вымушаны быў удзельнічаць у гэтых выбарах, і гэта было ня толькі маё рашэньне. Я прыняў яго пасьля кансультацыяў з кіраўніцтвам Фронту. Дык вось удзельнічаць трэба было таму, што ў адваротным выпадку гэта было б больш небясьпечна. Бо дэмагогія, сродкі масавай інфармацыі і грошы, якія за гэтым сталі, маглі зрабіць вельмі разбуральную справу ў Беларусі. Выкарыстаўшы антылукашэнкаўскія настроі, якія праяўляюцца часам у формуле «абы зваліць», «абы пазбавіцца». І аргумэнтацыі – чаму мы ня ўдзельнічаем – у нас было б малавата, і не было б магчымасьці яе давесьці. Маглі б раскалоць структуры Фронту, дэзарыентаваць іх, і фактычна ўжо на першым этапе зьнішчыць вызвольную апазыцыю. Таму мы ўключыліся ў барацьбу. Я сьвядома пайшоў змагацца. І пры якіх умовах? Умова была толькі адна: гарантыя, што выбары будуць адбывацца па Закону ад выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Строга па Закону. Гарантыі былі дадзеныя... І потым гэты Закон пачаў парушацца ўвесь час – спачатку мэханізм выбараў быў парушаны поўнасьцю, а потым высьветлілася, што ідзе фальсыфікат: падаюцца мільёны выбарцаў, якія ўжо прагаласавалі. На самай справе максымум можа пара дзясяткаў тысячаў. Я гэтую сытуацыю добра ведаю, бо я асабіста перагаварыў з кіраўнікамі абласных і раённых камісіяў. Гэта значыць, што ўсе камісіі, якія існуюць, увесь Народны Фронт пераўтварыліся ў гарматнае мяса. Яны ўжо не патрэбныя гэтым самым архітэктарам. Яны патрэбныя ім толькі дзеля таго, каб рабілі выгляд, што вось тут адбываюцца быццам бы выбары.



***Радыё Свабода:* – Але многія сябры аб'яднанай апазыцыі сыходзяцца на тым, што зараз адзіная задача для ўсіх – разбурэньне існуючага рэжыму. І ў дадзеным выпадку зрыў выбарчай кампаніі на карысьць Лукашэнкі.**

– Па-першае, гэтая выбарчая кампанія маім выхадам не зрываецца. Ганчар давядзе яе да канца, калі застанецца толькі паўкамісіі на ўсю Беларусь. Справа ў іншым. Справа ў прынцыпе. Зараз усё ўжо вырашана загадзя, ідзе брудны фальсыфікат, а ў арышт ідуць фронтаўцы. Фактычна ідзе спаленьне структур Фронту. Бо ўсе рэпрэсіі (і цяжкія рэпрэсіі) абрынуліся на Фронт. Ён робіць гераічныя высілкі дзеля абсалютна пустой справы. Вось чаму я зьвярнуўся з заклікам выходзіць з гэтых выбараў і ратаваць людзей. Мне раней задавалі пытаньні, бо людзям было цяжка зразумець: яны выходзілі, каб ня ўдзельнічаць у гэтай фальсыфікацыі й ня быць ахвярамі, а я – застаюся. Я ня мог заставацца. Я вымушаны быў пайсьці.

Гэта й ёсьць асноўным пытаньнем. Такім чынам гэтыя выбары, як працэс, засталіся. Але сутнасьць глыбей. Яна ў тым, што стварэньнем фантомаў, стварэньнем пасьмешышча, стварэньнем фальсыфікаты ніякіх палітычных мэтаў дасягнута ня можа быць. Гэта – маскоўская палітыка. Гэта – іхны ўзровень. І самае страшнае, што мне давалі ўжо адпаведныя палітыкі на Захадзе (я меў спатканьне ня толькі са Спэкхардам), што гэтыя выбары міжнародная супольнасьць не прызнае. Таму што яны бачаць, на якой падставе гэта робіцца.

Мы прапаноўвалі зусім іншы, прынцыповы падыход. Як да сур'ёзнага палітычнага працэсу, выключна на законнай аснове. Так, рэжым бы забараніў выбары, але працэс бы не спыніўся, ён дожыўся б да ўжо, але ён прывёў бы да рэальных вынікаў! А цяпер створаная проста фальшыўка, якая ня дасьць ніякіх маральных, палітычных ці юрыдычных падставаў спрачацца з рэжымам.

***Радыё Свабода:* – Але такім чынам спыняецца самая агітацыя, прапаганда выбараў. А гэты працэс якраз быў на карысьць дэмакратычных сілаў...**

– Справа ў тым, што якраз не было шырокай агітацыі й прапаганды. Толькі ў асобных раёнах гэта было. А на самай справе кіраўніцтва ЦВК не было зацікаўленае ў арганізацыі выбараў. Для іх была важнаю форма: атрымліваць чыстыя пратаколы, а далей... Скажам, у Віцебскай вобласьці, якая «лідзіруе» (там 44% «прагаласавалі»), увогуле амаль ніякага галасаваньня пакуль не праводзілася! Туды толькі ўчора завезьлі бюлетэні ў раённыя камісіі – па 500 штук. Там ужо ўвесь Віцебск сьмяецца. І што, на гэтай аснове вы хочаце рабіць прапаганду? Ня можна трымаць народ за дурняў. Ні ў якім разе!



***Радыё Свабода:* – Але ёсьць рашэньне Сойму БНФ – у выбарах удзельнічаць і працягваць выбарчую кампанію. Гэта ідзе ў разрэз з вашым рашэньнем?**

– Праект рашэньня Сойму БНФ узгадняўся са мной. І там усё правільна. Фронт удзельнічае ў выбарах і выконвае толькі законныя дзеяньні. І не падпарадкоўваецца ніякім структурам, якія спрабуюць талкаваць Закон. Там пра гэта ясна сказана. Трэба ўмець чытаць гэтую пастанову. Так што супярэчнасьці тут я ня бачу. А па-другое, я зьяўляюся старшынём Фронту і кандыдатам у прэзыдэнты. І ў гэтай сытуацыі, калі я бачу адкрытую і яўную фальшыўку, я прымаю рашэньне – як асоба, як кандыдат. І я ня буду дыскутаваць яго два тыдні па-пустому, калі паляцца структуры, калі ідзе кампрамэтацыя ўсяго. І таму рашэньне маё абсалютна правільнае.

***

Яшчэ да гэтага ўчынку свайго лідэра **Народны Фронт** выказваў слушныя сумневы наконт лічбаў прагаласаваўшых, якія падаваў Цэнтравыбаркам. Пасьля-ж зьняцьця З.Пазьняком свайго кандыдатуры Фронт пачаў адклікаць сваіх прадстаўнікоў з выбарчых камісіяў па ўсёй краіне. Гэтымі днямі кіраўніцтва БНФ адзначала, што ніякіх зрухаў у лепшы бок у працы ЦВК не адбываецца. Просьбы Фронту наконт прысьпешваньня вырабу ўлётак і вызначэньня стацыянарных участкаў для галасаваньня ў вапошні дзень выбараў – 16 траўня ня выканаваны.

Тым часам **прэсавы цэнтар ЦВК** сьцьвярджаў, што на 14-е траўня ў выбарах узялі ўдзел 3.676.344 чалавека – 48,7% ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў. Лідэрам зноў была названая Віцебская вобласьць, на апошнім месцы – Магілёўская.

15 траўня на чарговай прэсавай канфэрэнцыі БНФ было паведамлена, што сябры арганізацыі адкліканыя з выбарчых камісіяў ужо ў 30-ці гарадах краіны. Старшыня выбарчай камісіі з Ганцавічаў **Мікола Занька** паведаміў, што выбарчыя бюлетэні паступілі ў Ганцавічы толькі 9-га ўвечары, але паводле ЦВК у Ганцавіцкім раёне на той момант прагаласавала 10% выбаршчыкаў. **Сяргей Папкоў**, намесьнік старшыні Фронту, заявіў, што Фронт лічыць выбары брудныя, антызаконныя фальшыўкай, якая праводзіцца на расейскія грошы. Вось цытата зь ягонага выступу: «Гэта – тэхналёгія дэманстратыўнай фальсыфікацыі, ужытая для разбурэньня якраз адной з асноўных арганізацыяў, якая змагаецца супраць камунафашысцкага рэжыму і дыктатуры. Менавіта Ганчар, уступіўшы на шлях падману і дэманстратыўнай фальсыфікацыі, здрадзіў чарговы раз пад прыкрыцьцём спадара Шарэцкага беларускаму народу».

Процілеглую пазыцыю заняў сакратар Управы БНФ **Вячаслаў Сіўчык**. Ён заклікаў «аб'ектыўна ацаніць сытуацыю, пры якой БНФ дзейнічае сынхронна з афіцыйнымі ўладамі». Нагадаўшы пра тое, што падчас кампаніі 150 сябраў Фронту былі арыштаваныя й 15 – асуджаныя, ён выказаў думку, што няма падставаў для адкліканьня сябраў арганізацыі з выбарчых камісіяў, тым больш, што «легітымнага рашэньня пра такое адкліканьне БНФ не прымаў». Сіўчык падкрэсьліў, што дадзеныя, якія дае ЦВК, ня могуць быць аргумэнтам таго, што ўжо ідзе фальсыфікацыя. Таксама ён палічыў, што З.Пазьняка дэзынфармуюць ягоныя намесьнікі па Фронту.

У гэтыя дні вядомы расейскі праваабаронца, пісьменьнік і інтэлектуал **Уладзімер Букоўскі**, былы вязень камуністычных лягераў, які ўжо 20 гадоў жыве ў Вялікай Брытаніі, таксама выказваўся пра беларускую сытуацыю. У адказ на паведамленьні пра магчымую фальсыфікацыю вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў ён асабліва адзначыў, што ня ўсе сродкі добрыя ў барацьбе з рэжымам. Вось ягонае меркаваньне на гэты конт: «Я лічу гэта абсалютна недапушчальным. Калі такое сабе дазволіць апазыцыя, яна згубіць свой маральны аўтарытэт, дакладна так-жа, як яго згубіў Лукашэнка. Гэтага рабіць нельга ні пры якіх умовах. Хай будзе такі вынік, які будзе на самай справе. Хай людзі выкажуць тое, што яны хочуць выказаць. Толькі такім чынам вы можаце мацаваць ідэю дэмакратыі, ейныя прынцыпы і самую апазыцыю. Любая фальсыфікацыя стане самазабойствам».

Нарэшце, 17 траўня **ЦВК** паведаміў, што ў выбарах узялі ўдзел 4.007.302 чалавека ці 53,1% усіх выбаршчыкаў. Выбары, паводле ЦВК, адбыліся ва ўсіх рэгіёнах краіны. На апошнім месцы апынулася нашая вобласьць, дзе прагаласавалі 50,6%. **Віктар Ганчар** зазначыў, што «ЦВК усьведамляе той факт, што рэальна кампанія праходзіла ў рэчышчы адхіленьня ад ідэальных працэдурных умоваў». Ён паведаміў, што канчатковыя вынікі кампаніі будуць падведзеныя 19-га траўня на паседжаньні ЦВК (згодна тэхналёгіі свайго выхаду «ТМ» не пасьпявае даць гэтую інфармацыю ў нумар). Ганчар таксама заявіў, што «калі па выніках гэтай кампаніі будуць аб'яўленыя паўторныя выбары, то я, зразумела, выступлю за такія выбары, але без удзелу так званых беларускіх уладаў, таму што відавочным вынікам гэтай кампаніі зьявілася й тое, што Лукашэнка ўжо зараз страціў фактычна легітымнасьць, і застаецца толькі дачакацца страты ім юрыдычнай легітымнасьці».

Выказаўся пра выбары і старшыня Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня **Сямён Шарэцкі**. Ён заявіў, што масавы ўдзел выбаршчыкаў у галасаваньні – гэта факт, і што цяпер можна гаварыць ня толькі аб скасаваньні 20 ліпеня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі, але й аб тым, што ён ня мае падтрымкі ў большасьці насельніцтва.



Кіраўніцтва БНФ паставіла тым часам лічбы, пададзеныя ЦВК, пад вялікі сумнеў. «БНФ не прызнае вынікаў выбараў незалежна ад колькасьці галасоў, аддадзеных за Пазьняка, – заявіў прэс-сакратар Фронту **Валеры Буйвал**, – бо лічыць вынікі сфабрыкаванымі». Ён назваў заяву ЦВК аб немагчымасьці выхаду З.Пазьняка з кампаніі ўвядзеньнем у зман грамадзкасьці.

І, нарэшце, цалкам рэальнымі назвала лічбы ЦВК жонка другога кандыдата ў прэзыдэнты сп-ня **Юлія Чыгір**.

***Наш камэнтар.*** *Можна канстатаваць, што вынікаў прэзыдэнцкай кампаніі некалькі, і галоўныя зь іх, мабыць, яшчэ наперадзе. Сярод важнейшых – стаўленьне да травеньскай выбарчай кампаніі з боку міжнародных арганізацыяў. Далёка не абыякава для краіны, чым абернуцца выбары для Фронту. Згартаваная ці яшчэ больш аслабленая выйдзе з выбараў увогуле беларуская апазыцыя, якая ніколі не вызначалася еднасьцю і каардынацыяй. «Сваіх вынікаў» трэба чакаць таксама з боку ўладаў.*

*Напружаньне, якое абрынулася на актывістаў і грамадзтва, вартае, на нашую думку, веданьня і сумленнага асэнсаваньня. Таму мы не шкадавалі ў гэтыя дні найноўшай беларускай гісторыі газэтнага месца для падрабязнай кронікі зусім не выпадковага канфлікту.*

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК пошты й друку***

